БЕЛАРУСКАЕ СТУДЭНЦКАЕ ЗГУРТАВАНЬНЕ

# КРЫВІЦКІ СЬВЕТАЧ

ВУЧЫСЯ, ПРАЦУЙ І ЗМАГАЙСЯ...



Nr. 1 (3). Мюнхэн–1946г. СТУДЗЕНЬ

## З Ь М Е С Т.



-x-X-x-

# С Ь В Е Т А Ч.

Лік крывіцкага /беларускага/ студэнцтва ў Мюнхэні аж да апошняга часу ўсьцяж павольшваецца. Шэрагі ягоныя ўзрастаюць. Прыяжджаюць усё новыя прадстаўнікі нашай моладзі, пры гэтым як хлапцы, так і дзяўчаты. Сярод іх ёсьць і такія, якія ўжо маюць некалькі сэместраў за сабою, а таксама і некалькі такіх, якія ўжо пакончалі вышэйшыя школы і цяпер жадаюць здабыць навуковыя доктарскія дыплёмы, каб гэтым самым здабыць магчымасьць уступу да прафэсуры ў вышэйшых школах. Сямейка наша расьце як колькасна, так і якасна.

Гэтая сытуацыя была прычынай таго, што ініцыятыўная група Б.С.З., якая выдала ўжо два нумары свайго часапісу "Студэнцкія Весткі", пастанавіла: па-першае, пашырыць і паглыбіць ягоны зьмест, па-другое, зьмяніць ягоны назоў адпаведна да вымогаў як студэнцтва самога, так і нашага грамадзянства наагул, прыймаючы прыгэтым пад увагу тое, што мы яшчэ дасюль, нажаль, ня маем тут ніякага іншага часапісу.

Такім чынам зьяўляецца перад нашым грамадзянствам новы орган Б.С.З. – "Крывіцкі Сьветач".

Б.С.З. разумее добра, што, прыймаючы гэты назоў, бярэ на сябе вялікую адказнасьць, бо першапачаткавая наша Дзяржава-Княства Крывіцкае было запраўды сьветачам культуры і арганізацыйна-дзяржаўнага жыцьця на ўсходзе Єўропы. Вялікі сын гэтага Княства – Др.Фр. С к а р ы н а, як прадстаўнік ягонае культуры, быў ведамы ўсяму вучонаму сьвету тагачаснай Єўропы. Гэтая ягоная місія знаёмства Єўропы з духовай творчасьцю нашага народу сяньня і ў мінуўшчыне якраз асабліва цяпер зьяўляецца ганаровым заданьнем Б.С.З. Тым болей, што Єўропа і нават амаль увесь сьвет ведае ўжо аб тым, што мы ня толькі займаем пэўны абшар на зямлі, але і аднachасна ўжо дасьпелі да дзяржаўнага жыцьця. Аднак, паняцьце аб духовай творчасьці нашага на-

роду, аб ягонай апрычонасьці, самабытнасьці, аб яго сучаснасьці і мінуўшчыне ў бальшыні вельмі няяснае, цёмнае.

Культура, мова, дзяржаўна-праўны лад Крывіі ляглі ў васнову пазьнейшай нашай дзяржаўнай формы Вялікага Княства Беларуска-Літоўскага. Ня гледзячы на тое, што назоў быў іншы, крывіцкія праўна-маральныя і культурныя асновы новага гаспадарства былі прынятыя ўсім грамадзянствам і паслужылі прычынай росквіту нашай Бацькаўшчыны ў XIУ - XУI ст.ст. Таму кажны з нас цяпер з радасьцю ўспрыймае гэтыя нашыя традыцыі і можа з гонарам насіць імя Крывіча.

Вельмі пашыраная гістарычная легенда аб Вялікім Князю Крывіі - Усяславе гаворыць нам, што ён, будучы Вялікім Князем у Кіеве, чуў як званілі званы ў Полацку - сталіцы Крывіі і толькі марыў аб тым, як-бы хутчэй ізноў пабачыць свой родны горад, сваю родную зямельку.

Як мы добра Яго разумеем асабліва цяпер! Ягоныя тагачасныя лятуценьні і думкі быццам перанясьліся сяньня ў нашыя душы і сэрцы. І мы кажную хвіліну сяньня жывём імі, як-бы нам ізноў хутчэй пабачыць нашую Вольную Бацькаўшчыну.

Нажаль, сытуацыя цяпер, як агульная, так і наша асабістая вельмі цяжкая, вельмі няясная. Вайна скончылася, але спакою няма. Мы ня ведаем, што будзе заўтра. Аднак мы пэўна ведаем адну рэч: гэта - пільна, старанна і упорыста працаваць, здабываць веду і асьвету, духова ўдасканальваць сябе, верачы ў тое, што ўрэшце рэшт праўда, дабро і справядлівасьць перамогуць сілы зла. Мы перакананы ў тым, што гэта нашая ўпэўненасьць, наша цьвёрдая і рашучая вера ў сьвятыя ідэалы ня толькі ўзмоцніць нашы сілы на шляху здабываньня асьветы і веды, ня толькі спрычыніцца да нашага духовага ўдасканаленьня, але і адначасна станецца вогнішчам, якое сваімі праменьнямі будзе асьвятляць душы і сэрцы ўсяе нашае моладзі і ўсяго нашага грамадзянства наагул, вытвараючы адзіна-ідэёвую, салідарную крывіцкую сям'ю.

Студэнцтва наагул было заўсёды перадавой, найболей паступовай часткай народу. Яно заўсёды было першым на фронце Культуры, Цывілізацыі, Прагрэсу. Асабліва нашае вызвольнае змаганьне адзначалася тым, што на чале яго стаялі амаль выключна прадстаўнікі інтэлігенцыі, культуры. Таму мы, крывіцкія студэнты, уважаем, што падыймаючы гэтыя сьвятыя ідэалы і лёзунгі, пойдзем па шляху вялікіх тварцоў нязьнішчальных духовых вартасьцяў чалавецтва, зрэалізуем запаветы Ўсяслава, Скарыны і іншых нашых слаўных продкаў.

Таму мы спадзяемся, што наш часапіс "Крывіцкі Сьветач" будзе з сымпатыямі і гонарам прыняты нашым грамадзянствам. Мала таго, мы пераканаяы, што перадавая частка нашага грамадзянства на эміграцыі дапаможа нам радай і чынам, каб "Крывіцкі Сьветач" сапраўды стаяў на адпаведнай навукова-літаратурнай і мастацкай вышыні.

"Крывіцкі Сьветач" будзе сыстэматычна адлюстроўваць вынікі нашай працы, нашых заданьняў і падзеяў у сьвеце. Мы маем адвагу думаць, што ён сапраўды, як тая зорка, будзе паступова асьвятляць цемру навакол нас, што запраўды станецца агульным Сьветачам Крывічоў.

Урэшце мы яшчэ жадалі-б, каб перадусім кажны крывіцкі студэнт ці студэнтка, усёроўна дзе яны знаходзяцца, з радасьцю прынялі наш часапіс і з свайго боку пастараліся аб тым, каб ён стала ўзрастаў, удасканальваўся, ня толькі мігацеў, але рознымі колерамі вясёлкі красаваў на нашым у сучаснасьці цёмным небасхіле.-

У. Д.

# ЧАМУ "КРЫВІЧ"?

Дзеля нястачы места ў часапісе артыкул гэты мусіць быць кароткі.

Чаму мы маем ужываць назоў "Крывіч, Крывія, крывіцкі" замiж "Беларус, Беларусь, беларускі"?

Аргуманты за назоў "Крывіч" і г.д. гэткія. Назоў "Крывіч, Крывія, крывіцкі" стары і спрадвечны назоў нашага народу. Спачатку гістарычных часоў для нашае Бацькаўшчыны, значыцца з IX стагодзьдзя па Хрысту, Крывічамі звалася адно з племенаў нашага народу, тое, што займала прастору ў басейне верхняга Дняпра, верхняе Волгі, Дзьвіны з мястамі Смаленск, Віцебск, Полацак, Пскоў. Гэта было найбольшае племя нашага народу і адначасна племя найактыўнейшае, племя з вялікімі арганізацыйнымі здольнасьцямі. Яшчэ дагэтуль па ўсей нашай Бацькаўшчыне дзе-ня-дзе ёсьць мясцовасьці з назовамі, паходзячымі ад слова "Крывіч", гэтак прыкладам ё мястэчка Крывічы ў Вялейскім павеце, Крывічы ў Лідчыне, на Палесьсю, Крэва і Крыўск у павеце Ашмянскім і шмат іншых. У такіх мясцовасьцях у старыя часы Крывічы малі свае арганізацыйныя пункты на прасторы іншых нашых племёнаў. Крывічы былі ў вялікай меры палітычнымі і адміністрацыйнымі арганізатарамі іншых нашых племёнаў. З прычыны гэтае дзейнасьці племяні Крывічоў іхні племенны назоў пашырыўся і на іншыя плямёны і гэткім парадкам агульна-нацыянальным назовам. Іншыя думаюць, што ўжо ў IX ст. назоў "Крывічы" быў агульна-нацыянальным назовам, побач і адначасна з каторым часьць плямёнаў мела яшчэ свае мясцовыя топографічныя назовы, як Дрыгвічы ад дрыгвы, бо жылі на дрыгве, і інш. Як-бы там ні было, але з XII ст. назоў "Крывіч, Крывія, крывіцкі" ёсьць агульна нацыянальным назовам нашага народу. На гэта ёсьцека шмат сьветчаньняў. Гэтак прыкладам, у XII ст. ведамая асьветная дзеячка сьв. Еўфрасіня, княжна Полацкая завецца ў рымскіх памятках "regina Krivitiae"/караліца Крывіі/. Пруські хронікар Дусбург запісаў, што ў 1314 г. магістра Тэўтонскіх крыжакоў пайшоў вайною ў Крывію і места іхнае Наваградак забраў.

Паўстаньне агульна-нацыянальнага назову з назову племеннага ёсьць найзвычайнейшым спосабам паўставаньня агульна-нацыянальных назоваў. Гэтак прыкладам, паўстаў нацыянальны назоў у Сербаў, Чэхаў, Палякоў, Шведаў, Латышоў.

Само слова "Крывіч" паходзіць ад слова "кроў", значыць людзі аднае крыві, аднаго народу. Падобна ад слова "род" паўстала слова "родзіч", што значыла спачатна "чалавек, людзі таго самога роду", а пасьлей адзержыла значаньне, адказуючае маск. "земляк", пол. "rodak"

Пасьлей назоў "Крывічы" быў выцісьнены іншым, новым агульна-нацыянальным назовам нашага народу, назовам "Ліцьвін, Літва"/ад паловы XIV стаг. пераважае ўжо гэты новы назоў/, але памяць аб назове "Крывічы" была яшчэ ў нашым народзе ў XIX стаг., калі пры сьпісаньню насельніцтва "Крывічамі" запісалася колькі дзесяткаў тысячаў чалавекаў. У тым-жа XIX ст. блізу ўсе нашыя пісьменьнікі завуць наш народ "Крывічамі", ягоную Бацькаўшчыну "Крывіяй", а мову "крывіцкай". x/

Я. Станкевіч.

---

x/ З XI стаг. сярод нашага народу быў яшчэ назоў "Русін", а як зборнае імя - "Русь". Меў ён у нас аднолькавае значаньне з назовам "Грэк". У Украінцаў назоў "Русін, Русь" быў назовам нацыянальным. Паўстаў ён на Украіне ад прышлых із Скандынаўі Норманаў, званых Русамі, предкаў цяперашніх Шведаў. Русы, прыйшоўшы із Шведыі ў Кіеўшчыну, залажылі тут новае гаспадарства. Ад іх Украінцы сталі звацца Русінамі, Русьсю. Нашыя предкі ў канцы X і ў XI стаг. прынялі хрысьціянства з Візантыі за пасрэдніцтвам Кіева, Русі. З гэтае прычыны

# КАСТУСЬ К А Л І Н О Ў С К І.

XIX стагодзьдзе. Скованая, абшарапаная і абрабаваная ворагамі, стаяла на крыжавых дарогах наша Маці-Беларусь. Яна сумавала па загубленай славе сваей, па сынох-волатах, якія ў залаты век Беларусі баранілі яе волю і незалежнасьць. Навакол ня чуваць было гулкіх песьняў беларускіх ратнікаў, анямелі званы старадаўнага Полацкага веча і ня зьбіраўся ў вялікія паходы горды князь беларускі Усяслаў Чарадзей.

Вялікае гора, смутак і туга спавівалі тады нашую зямельку. Гэта быў час, калі, кажучы словамі беларускага паэты, нават вольны Нёман-рака пачынаў скардзіцца:

"Скора сын бацьку, а бацька сыночка
Не распазнаюць адзін аднаго,
Дзеці чужацкія кормяць ужо дочка,
Маці працуе на зьлыдня свайго..."

Але вось на захадзе пачалося нябачанае ў гісторыі адраджэньне паднявoленых народаў. Хваля адраджэньня захапіла і нашу асірацелую зямлю. Гэта быў час, калі на сьвітаньні пачынаўся новы дзень нацыянальнага ўваскрошаньня Беларусі.

З нізоў, з народу, які раней на працягу трох стагодзьдзяў бараніў сваю самабытнасьць, пачалі нараджацца сыны, якім дарагі былі мінулыя слава і гонар растаптанай і абшарпанай Маці-Беларусі. Яны пачалі будзіць народ і клікаць яго на змаганьне "за свае чалавечыя і народныя правы, за сваю зямлю родную". І адным з такіх выдатных сыноў нашага народу быў Кастусь К а л і н о ў с к і, які 19 красавіка 1864 г. аддаў жыцьцё за сваю Бацькаўшчыну-Беларусь.

Кастусь Каліноўскі нарадзіўся 21 студзеня 1838 г. у незаможнай сям'і беларускага саматужніка-ткача на Горадзеншчыне. Скончыўшы гімназію, ён паехаў вучыцца ў Пецярбург на юрыдычны факультэт унівэрсытэту, які і скончыў як кандыдат права. Яшчэ будучы студэнтам у Пецярбурзе ён чынна працуе ў рэвалюцыйных студэнцкіх арганізацыях, чула прыслухоўваецца да настрояў і думак прагрэсыўных людзей тае пары.

У 1862 г. Каліноўскі вяртаецца на бацькаўшчыну. Тут ён з усей, сваей яму, энэргіяй і запалам, аддаецца змаганьню з адвечнымі прыгнятальнікамі беларускага народу. Ён аб'яжджае мястэчкі і вёскі, заклікае і арганізоўвае сялян на збройную барацьбу з царскім самаўладзтвам.

Апрануты ў шэрую сялянскую сьвітку, Каліноўскі ішоў у нізы беларускага народу і нёс туды гарачыя словы "Мужыцкае Праўды". Ён гаварыў сялянам, што час ужо забраць зямлю ад паноў і стварыць мужыцкую Беларусь, вольную ад царскага самаўладзтва.

Кастусь Каліноўскі, імем якога ганарыцца беларускі народ, быў і адным з першых заснавальнікаў беларускага пэрыядычнага друку. Гэта ім 82 гады таму назад была заснаваная першая беларуская друкаваная газэта "Мужыцкая Праўда".

Воляю лёсу Каліноўскаму не ўдалося давесьці да канца вялікую справу вызваленьня Беларусі. Мацнейшымі сталіся сілы рэакцыі ды здрадніцтва польскіх магнатаў, а за імі і беларускай вярхавіны, дваран, якія пайшлі на паклон да цара і панесьлі яму вернападданіцкія адрасы. Пачалося жорсткае прасьледаваньне ўдзельнікаў вялікага народнага руху.

А Каліноўскі тымчасам чакаў вясны, каб ізноў распачаць паўстаньне. Але гэтае надзеі яму так і не давялося ажыцьцявіць. 7 студзеня 1864 году Каліноўскі, які хаваўся ў памешканьні настаўніка ў Сьвята-

---

хрысьціянская вера ўсходняга абраду /праваслаўная і грэка-каталіцкая, ці інакш вуніяцкая/ у нас звалася "рускай верою", а вернікі ейныя зваліся Русінамі, Русьсю, радзей Грэкамі. Можна тут заўважыць, што хрысьціяне лац. абраду /рым.-кат./ у нас наз. Рымлянамі, радзей ляхамі.-

янскіх мурох у Вільні, быў арыштаваны. Колькі месяцаў ён пратаміўся ў вастрозе, чакаючы сьмяротнай кары. Яго мучылі допытамі і пагрозамі, але зламаць не маглі. Каліноўскі астаўся цьвёрдым, поўным веры ў сваю вялікую народную справу.

З вастрогу яму ўдалося напісаць да сваіх прыяцеляў і прыхільнікаў два лісты: адзін да свае Бацькаўшчыны-Беларусі, другі - да беларускага народу. Вось што пісаў Каліноўскі ў другім сваім лісьце:

"Беларусьі, браты мае родныя!

З-пад шыбеніцы маскоўскай прыходзіцца мне пісаць да вас, і можа, астатні раз. Горка пакінуць зямельку родную і цябе, дарагі мой народзе! Грудзі застогнуць, забаліць сэрца, але ня жаль згінуць за тваю праўду, Прымі, народзе, па шчырасьці мае слова перадсьмяротнае, бо яно як-бы з таго сьвету толькі для дабра твайго напісана. Няма-ж, браткі, большага шчасьця на гэтым сьвеце, як калі чалавек мае розум і навуку. Тады толькі ён можа быць у радзе, жыць у дастатках і тады толькі, памаліўшыся Богу, заслужыць неба, бо, узбагаціўшы навукай розум, разаўе сэрца і народ свой цэлы шчыра палюбіць. Але як дзень з ноччу ня ходзіць разам, так і навука праўдзіва ня ідзе разам з няволяй маскоўскай. А пакуль яна у нас будзе, у нас нічога ня будзе. Ня будзе праўды, ня будзе багацьця і ніякай навукі, адно намі, як скацінай, варочаць будуць не для дабра, а на пагібель нашу. Вайой, народзе, за сваё чалавечае і народнае права, за сваю веру, за зямлю сваю родную. Бо я табе з-пад шыбеніцы кажу, народзе, што толькі тады зажывеш шчасьліва, калі над табой маскаля ўжо ня будзе."

"Яська гаспадар з-пад Вільні".

Сёмага /20/ красавіка 1864 г. у дзень кары Каліноўскага была ясная халодная раніца. Каліноўскі ішоў на кару цьвёрдаю, сьмелаю ступою. Перад самай сьмерцю, калі да Каліноўскага зьвярнуўся ксёндз, каб выканаць споведзь і назваў яго шляхціцам, ён адказаў: "У нас няма шляхты, у нас усе роўныя".

Так загінуў за народную справу вялікі змагар беларускага народу Кастусь Каліноўскі.-

-o-O-o-

## 1 8 6 3 - г о д .

Ня звонам зьвініць сьпелы колас,
Ня вецер шуміць у траве, -
То праўды сялянскае голас
Народ на змаганьне заве.

Ня мора бушуе ў час непагоды
Ўзносячы пеністы вал, -
То льлецца над краем
свабоды-
І гневу народнага шквал.

Ня бура-пярун з бліскавіцай
Грукочa, грыміць над зямлёй, -
Над змучаным краем ірдзіцца
Народнае волі ўзьлёт.

У змучанай катам краіне
Вызвольніцкі ўзьвіўся штандар,
Да неба пагрозьліва хлынуў
Народнае помсты пажар.

Ня зьзяньне на небе віруе,
Ня сьвеціць над морам маяк, -
То сілай паўстанцаў кіруе
Кастусь Каліноўскі - ваяк.

Прыслухайся! Гэта ня громы,
Ня дзікі разбойніцкі сьвіст, -
У жаху сьмяротным харомы
Дрыжаць, як асінавы ліст.

І вось нібы цёмную хмару,
Цар шле свае войска ў край:
Тушыць вызваленьня пажары,
Змаганцаў за волю караць!

Ня змог народ цёмнае сілы,
Паўстаўшы за волю сваю...
Зламаны арлінныя крыльі,
Арол горда паў у баю.

Табе, мой Народзе, Радзіме
Здабыць хацеў шчасьця пару...
Яго легендарнае імя
Запомніць на-век Беларусь.

26.I.1946 г. Янка Золак.

З БЕЛАРУСКАГА ЖЫЦЬЦЯ.
""""""""""""""""""""""""

Сьвяткаваньне 83-х угодкаў Студзенскага паўстаньня
ў Рэгенсбургу.

У нядзелю, 27.I.46г., адбылося сьвяткаваньне 83-х угодкаў Студзенскага паўстаньня. Прыгожа прыбраная спартовая заля памешканьня УНРРА-ы ў пасёлку ўжо за поўгадзіны перад пачаткам акадэміі была перапоўнена людзьмі. Сабраліся сюды моладзь і прадстаўнікі старэйшага беларускага, польскага і літоўскага народаў. Сцэна ўпрыгожана нацыянальнымі сьцягамі ўдзельнікаў паўстаньня. Урачыстасьць адчыніў кароткім уступным словам праф. Студніцкі. Пасьля гэтага быў прачытаны рэферат у польскай мове, у якім прелегент высьветліў ролю, якую адыграла Вялікае Літоўска-Беларускае Княства і Польшча на працягу гісторыі як мур абараняючы Эўропу перад усходняй навалай. Наступна былі высьветлены прычыны і мэты Студзенскага паўстаньня. У другім кароценькім рэфераце прадстаўлены быў прабег паўстаньня. Пасьля польскага рэферату была прамова ў літоўскай мове, якая закончылася адсьпяваньнем літоўскага нацыянальнага гімну.
Далей распачалася беларуская частка. У абшырным і зьместоўным рэфераце было прадстаўлена трагічнае палажэньне беларускага народу перад паўстаньнем. Асуджаны царатам на сьмерць, беларускі народ прагавіта лавіў подыхі заходняга ветру, які прыносіў далёкі гул народнага гневу, што выліўся ў рад збройных паўстаньняў за сацыяльнае выз-

валеньне уцісканых масаў. І вось, калі надышоў адпаведны мамент, раўналежна з палякамі, але незалежна ад іх пад павадырствам маладога праўніка Кастуся Каліноўскага падняўся ён, як волат, на змаганьне супроць зьненавіджанага царызму. Палі найлепшыя сыны беларускага народу. Пакрылася наша зямліца крыжамі, пачалі на ёй ўзрастаць, як грыбы пасьля дажджу, шыбеніцы. Другія дзесяткі тысячаў доўгімі шэрагамі, з кандаламі на руках, павандравалі ў далёкі Сібір, каб там адпакутаваць свае "віны" перад "самодержцем". Царскі служака "вешатель" Мураўёў ня змог аднак-жа поўнасьцю выканаць свайго заданьня. Зламаныя крыльлі паўстанцаў, але дух іх ня зломаны! Славу паўшых бацькоў паднялі іхныя дзеці. Дух Каліноўскага астаўся жыць між імі. Адсьпяваньнем беларускага нацыянальнага гімну закончылася афіцыяльная частка урачыстасьці.
На мастацкую частку скляліся харавыя і салёвыя песьні ды рэцытацыі. У перамежку з дэклямацыямі, беларускі хор удала выканаў некалькі народных песьняў. Праўда, песьня "Зязюленька" была прапяяна нейк бяз жыцьця, была за мала апрацавана. Гэты недахоп, аднак, быў выраўнаны пры выкананьні наступных песьняў. Вельмі ўдала хор адсьпяваў "Пагоню". Здавалася, што сапраўды чуўся шум гэтых імкнучых коньнікаў і звон іхняе зброі. Яна захапляла і парывала за сабой сэрцы слухачоў. Асабліва спадабалася ўсім песьня ў выкананьні гэтага-ж хору песьня "І сюды гара, і туды гара". Прысутныя падзякавалі выканаўцам грымучымі воплескамі. Салісткай Беларускай оперы былі памастацку выкананы песьні: "Пальночак" і "Слуцкія ткачыхі", за што яна атрымала даўгія гучныя воплескі. Пазьней малады беларускі паэт Янка Золак адчытаў свой верш: "1863-год".
Літоўскі хор таксама вельмі добра выканаў колькі нацыянальных народных песьняў.
Некалькімі рэцытацыямі ў польскай мове і польскім нацыянальным гімнам закончылася урачыстасьць.
З глыбока ўзварушанымі сэрцамі і паднятым настроем разыходзілася публіка пасьля акадэміі.-

Рэгенсбург "ня сьпіць у шапку..."

Радуецца сэрца кажнага беларуса, які будучы ў Рэгенсбургу наведвае тутэйшую Крывіцкую калёнію. Бяз лішняе прыкрасы трэба прызнаць вялікія вынікі тае карыснае працы, якую праводзяць там нашыя земляхі і, асьцярожна іх прыхваліўшы /каб, значыцца не папсаваць людзей../ паставіць як добры прыклад і іншым асяродкам, дзе нажаль бывае, на'т імя беларускага кураюцца. Рэгенсбурскія беларусы не расьцярушыліся сярод чужых і не далі загінуць сваей роднай крывіцкай стыхіі, а наадварот, карыстаючыся роўнымі, як усе іншыя, правамі разьвіваюць яе і змаглі ўжо здабыць сабе добрае імя ды належнае месца сярод іншых нацыяў.
Вось некалькі зацемак з тутэйшага беларускага жыцьця. З самага пачатку гуртавалася яно круга Акруговага Беларускага Камітэту, які сяньня працуе як можа. Калі тварылася "аўсьлендарская" калёнія, беларусам таксама было прыдзелена колькі дзесяткаў дамоў. Зселеныя туды колькі сот беларусаў матарыяльна цастаткова забясьпечаныя, аб чым паклапаціўся створаны для аселішча асобны Беларускі Камітэт. Яму ў заслугу трэба прыпісаць наступіўшае ў апошнім часе ажыўленьне на культурна-асьветнай ніве. Добра працуе, адчыненая раней Акруговым Камітэтам, народная школа. Сярод моладзі працуюць скаўцкія дружыны. Штонядзелю ладзяцца рэфэраты на розныя тэмы /пераважна з беларусаведы/, якія сталіся ўжо прыгожай традыцыяй селішча.
Не бяз упорыстых намаганьняў і ахвярнай працы паасобных людзей зарганізаваны два хоры: сьвецкі і царкоўны. Ужо яны паказалі, што уложаная ў іх праца не пайшла на дарма.
10 сьнежня мінулага году адчынена беларуская гімназія ў Рэгенсбургу.

Сяньня працуюць клясы: I, II, III, У, УI і УII. Навучаньне ў гімназіі бясплатнае, з памешканьнем і выжыўленьнем дапамагае УНРРА. Настаўніцкі склад вельмі старанна ўкамплектаваны і дае поўную заруку самага высокага ўзроўню навучаньня ды выхаваньня крывіцкага маладняка. Запісы вучняў у гімназію яшчэ прыймаюцца. Адчыненьне матуральных курсаў залежыць толькі ад наплыву кандыдатаў, якімі могуць быць асобы ад I8-га да 45-га году жыцьця ўключна.
З тутэйшых імпрэзаў апошняга часу ўспомніць трэба перадусім міжнародны скаўцкі вечар, на якім вельмі ўдала выступілі з собскай праграмай і нашыя скаўты, а таксама і міжнародную мастацкую выстаўку ручных вырабаў з беларускім аддзелам. Выстаўленыя экспанаты з беларускай народнай творчасьці, як тканіны, вышыванкі, а таксама і вытвары працы жыхароў селішча выклікалі агульнае захапленьне. Выстаўка, якая сьпярша знаходзілася ў селішчы, была пасьля перанесена ў амэрыканскі клюб. Перад каталіцкімі Калядамі адбыўся ў гарадзкім тэатры міжнародны дзіцячы вечар, на якім нашыя дзеткі давялі сталых і сьвоеых "дзядзёў" да энтузіязму, станцаваўшы жыва і складна "Лявоніху".
7 студзеня г. г. для дзяцей беларускага селішча ладзілася ялінка. Праграму запоўнілі і захапляюча выканалі самі малышы, за што ў канцы кожны атрымаў гасьцінец.
Новы Год сустрэлі беларускія жыхары селішча за адным сталом пры вячэры, успамінаючы мінулыя ясныя і цяжкія дні, ды жадаючы сабе ўзаемна шчасьця, дабра і зьдзейсьненьня нашых сьвятых ідэалаў у будучыні.
Але найбольшай сенсацыяй у жыцьці ня толькі беларускай калёніі, але і ўсяго ненямецкага насельніцтва ў Рэгенсбургу былі выступы беларускае эстраднае трупы з Амбергу. Адбыліся ўсяго тры паказы: I9, 20 і 2I студзеня. На праграму зьлажыліся апрача песьняў і скокаў, яшчэ фантастычная кампазыцыя "Калядны вечар", водэвіль "Нечаканыя заручыны" і інш. Уваход на паказы быў бясплатны. Зьбіраліся толькі добраахвотныя ахвяры на беларускае школьніцтва. На выступах прысутнічалі прадстаўнікі амэрыканскіх уладаў ды запрошаныя госьці іншых нацыянальнасьцяў. Аб запраўды нештодзённым посьпеху трупы сьведчыць факт, што ня гледзячы на бясплатнасьць білетаў, якія рассылаліся па нацыянальных Камітэтах /лік месцаў у тэатры набліжаўся да тысячы!/, цана іх на "чорным рынку" даходзіла да I00.- РМ., а перад Беларускім Камітэтам і тэатрам стаялі натоўпы людзей, жадаючыя білетаў за ўсялякую цану!... Дайшло да таго, што пад напорам натоўпу выскачылі дзьверы тэатру, а прыбыўшых са спазьненьнем амэрыканскіх гасьцей, так і не ўдалося ўжо правесьці церэз гэты мур людзей у залю. Паводле незакончанага яшчэ падліку, збор на беларускія школы даў каля 5.000.-РМ.
Аб супольным з палякамі і літоўцамі сьвяткаваньні Студзенскага паўстаньня (угодкаў) пададзена ў васобнай карэспандэнцыі.
І так Рэгенсбург "ня сьпіць у шапку"!

## Беларусы ў ангельскай зоне.

Трэба зазначыць, што беларусы ў ангельскай зоне працуюць можа найбольш інтэнсыўна, але з прычыны нястачы месца падаем справаздачу аб іхнай працы пакуль што ў пару словах.
Там заснаваныя таксама і вядуць харытатыўную і культуральна-асьветную працу Беларускія Дапамаговыя Камітэты ўжо ад ліпеня I945 г. Гэткія існуюць у Браўншвайгу, Госьлары, Ватэнштэце, Гановэры, Ротэнбургу і г.д.
Дзякуючы большай наяўнасьці інтэлігенцыі, найбольш разгарнулася праца ў Ватэнштэце. Там закладзена ад пачатку школьнага году беларуская 4-х клясовая гімназія, дзе працуюць кваліфікаваныя сілы, а

таксама і пачатковая школа. Вельмі добра зарганізаваны Дзіцячы садок. Прыгожа і на ўзроўні пастаўлена арганізацыя моладзі "скаўты" ім. К. Каліноўскага. Цешыцца сэрца, калі бачыш беларускую моладзь у скаўцкіх блюзах /якімі абсьпечыла УНРРА/, з нацыянальнымі арганізацыйнымі адзнакамі.
Есьць царква, дзе адбываецца Служба Божая ў славянскай і беларускай мовах.
Вельмі добра працуюць артыстычны і хоравы кружкі. Кожную нядзелю ставяцца п'есы і ладзяцца канцэрты, а таксама і рэфераты. Заля, прызначаная да гэтае мэты, заўсёды перапоўненая.
Гэтаксама і ў Госьлярэ ёсьць бел. пачатковая школа /5 кл./, дзе выкладаюць 4 кваліфікаваныя настаўнікі. Дзеці з вялікім зацікаўленьнем і пільна вучацца ў роднай мове.
Стараньнем Бел. Дапамаговага Камітэту была пастаўлена на Каляды дзіцячая п'еска "Ёлка Дзеда Мароза" і канцэрт, пасьля чаго дзеці атрымалі ад Дзеда Мароза гасьцінцы. Найбольшае ўражаньне на прысутных зрабілі хораша прыбраныя сьняжынкі і красналюдкі, якія адтанцавалі на сцэне "Лявоніху".
Цяпер ужо і старэйшая моладзь рыхтуецца да адгуляньня "Паўлінкі" ды зарганізавала харавы кружок.-

## З жыцьця беларусаў уво Францыі.

У Парыжы пачала выходзіць беларуская газета пад назовам "Беларускія Навіны", якая зьяўляецца першым друкаваным словам беларускай працоўнай эміграцыі на абшары Францыі. Мы з свайго боку горача вітаем зьяўленьне гэтай газеты і жадаем посьпехаў у выкананьні сваіх заданьняў, як інфарматар, парадык і духовая страва для беларусаў на чужыне.
На просьбу беларускіх работнікаў, цэнтральны ўрад Францускага Хрысьціянскага сындыкату С.Ф.Т.С. дазволіў зарганізаваць пры свaeй канфедэрацыі Беларускую Секцыю, як Аб'еднаньне Беларускіх Работнікаў у Францыі. Секцыя бел. работнікаў пры франц. сындыкаце займецца справамі выключна сындыкальнага парадку, справамі абароны сацыяльных, эканамічных правоў сваіх сяброў.
/Белар. Навіны/

## Беларусы ў Амэрыцы.

У Злучаных Штатах Паўночнай Амэрыкі ўсе беларусы зарганізаваныя каля Беларускай Нацыянальнай Рады, - ніякіх іншых апазыцыйных арганізацыяў няма. На чале Б.Н.Р. стаіць сп. Ф. Тарасэвіч, галоўным сакратаром - сп. І. Лабач.
У Чыкагскім Радыё надаюцца гадзіны беларускіх аўдыцыяў. Падаюцца інфармацыі, музыка і беларускія песьні. Кіруе аўдыцыямі былы прэзыдэнт і міністар замежных спраў першага ўраду Беларускай Народнай Рэспублікі сп. Язэп В а р о н к а. На вялікі жаль аўдыцыі гэныя не перадаюцца на Эўропу.-
/Белар. Навіны/

-о-О-о-

З навукі і тэхнікі.

## РАЗЬВІЦЬЦЁ АТАМОВАГА ЯДРА.

/Праф. Др. Отто Г а н , ляўреат узнагароды Нобля за хімію 1944г./

Калі мы захочам спрабаваць сказаць збольшага штосьці аб "пераменах" хімічных элементаў, будзе мэтазгодным наагул заняцца сяньняшнім паняцьцем аб будове хімічных элементаў.

Уся матэрыя наагул складаецца з дакладна знанай колькасьці элементаў, найменшая складовая частка якіх называецца атомам. Заданьнем хіміі ёсьць пазнаць склад выступаючых у прыродзе шматлікіх спалучэньняў элементаў і ўтварыць з гэтых элементаў новыя спалучэньні. Некаторыя законамернасьці ў свомасьцях пэўных групаў элементаў знайшлі сваё выражэньне ў пабудове "Перыядычнай сыстэмы элементаў".

Вялічыня аднаго атому і малекул паўстаючых пры злучэньнях розных /або таксама аднолькавых/ атомаў, ёсьць надзвычайна малая. Яе прамень /радыюс/ выносіць прыблізна $10^{-8}$ /адна стомільённая/ часьць цмтр. Навейшае разьвіцьцё нашых паглядаў аб сутнасьці атомаў паказала, што яны ў свой чарод зьяўляюцца складзенымі творамі. Кожны атом усякага элементу складаецца з намнога меншага ад самога атому дадатна наладаванага ядра, якое практычна зьмяшчае ў сабе ўсю масу атому, і навакол гэтага ядра кружачых электронаў – найменшых часьцінак адмоўнай электрычнасьці, колькасьць якіх і іх агульны ладунак нэўтралізуе навонкі дадатні ладунак ядра. Радыюс атамовага ядра ёсьць яшчэ 10.000 разоў меншы ад самога атому. У сваей вялічыні адносіцца ядро атому да самога атому, як булавачная галоўка да сярэдня высокага дому!

Колькасьць дадатных ладункаў ядра абазначае месца элементу ў "Перыядычнай сыстэме". Так вадарод /Н/, найлягчэйшы элемент, мае ладунак ядра "1" і стаіць на першым месцы табліцы Мендзялеева. Другое месца займае гэлюм /Не/ з ладункам ядра – "2". Вугаль /С/ мае – "6" і так ідзецца крок за крокам аж да цяжкога элементу урану /U/, з ладункам – "92". З усіх дагэтуль ведамых элементаў стаіць ён на апошнім месцы.

### Радыёактыўныя элементы.

Атамовыя ядры складаюцца з двух асноўных частак матэрыі: з протонаў і нэўтронаў. Протон гэта ёсьць дадатна наладаванае ядро атому вадароду з масай "1". Нэўтрон – ёсьць неналадаванае, нэўтральнае атамовае ядро, якое таксама мае масу "1". Трэба думаць, што з гэтых – і толькі з гэтых – двух элементарных складовых частак павінны быць пабудаваны атамовыя ядры хімічных элементаў. Так напр., вугаль складаецца з 6-ці протонаў і 6-ці нэўтронаў; таму ладунак ядра ёсьць "6", а ягоная маса – "12". Навакол гэтага ядра рухаецца 6 электронаў, якія ствараюць атамовую абалонку. Мы можам сабе ўявіць электроны як трэйцюю складовую частку матэрыі.

Таму што хімічныя свомасьці элементаў выразна вызначаюцца колькасьцю протонаў, наладаваных частак ядра, нічога не зьменіцца ў хімічных уласьцівасьцях вугля, калі напр. замест шасьці нэўтронаў – ядро яго будзе зьмяшчаць 7 нэўтронаў. У такім выпадку ягоны атом мае масу "13", але застаецца яшчэ атомам вугля, таму што ладунак ядра ёсьць "6". У дзейснасьці ёсьць такія атомы вуглю з масай "13". Гэткія атомы, у каторых пры роўным ладунку ядра, і значыцца з аднолькавымі хімічнымі свомасьцямі, зьмяшчаюцца розныя колькасьці нэўтронаў / а дзеля таго яны маюць і розную атамовую вагу/, называюцца ізатопнымі родамі атомаў /ізатопы/. Амаль усе нашыя хімічныя элементы – гэта сумесі розных ізатопных родаў атомаў.

У прыродзе ёсьць шераг елементаў, якія падлягаюць самадзейным нутрана-атамовым переменам. Гета ёсьць радыё-актыўныя елементы. Пры высыланьні хутка рухлівых часьцінак масы $\alpha$ і $\beta$ /часта называных радыёвымі праменьнямі/, паступова пераменяюцца яны ў другія елементы. Пры помачы гетых праменьняў удаецца даказаць радыёактыўныя перамены ў так малых колькасьцях речавіны, існаваньне якой ляжыць далёка паза межамі хімічных магчымасьцяў доказу. З прыблізна 40 натуральных радыёактыўных елементаў ёсьць вельмі мала такіх, якія можна было-б атрымаць у зважанай колькасьці. Большасьць іх ёсьць знаная толькі з праменьняў высыланых імі.

Розныя актыўныя роды атомаў паўстаюць, праўда, стала з урану і тору /Th/, але зьяўляюцца так нятрывальымі, што не даюцца сабрацца ў дастатковай вагавой колькасьці, а распадаюцца хутка далей. Але якраз часьцінкі праменьняў, высланыя гетымі кароткажыцьцёвымі субстанцыямі, абумоўліваюць так вялікае значеньне радыёактыўных речавінаў у медыцыне, фізыцы і хіміі. Частачкі масы выкідваюцца з вялізарнай хуткасьцю з распадаючыхся атомаў; праз гета ёсьць магчымым выкрыць гетыя частачкі да аднае, а таксама і распадаючыся атом, які іх высылае. Наколькі гета ёсьць магчымым можам мы зразумець праз параўнаньне:

Мы ведаем як вялікую дзейнасьць вытварае праз сваю кінетычную енергію куля, якая пакідае стрельбу з хуткасьцю 1 км./сек. . Хуткасьць, з якой часьцінка пакідае радыёактыўны елемент, выносіць не 1 км. на 1 сек., але кругла 15.000 км./сек. Зразумела, ня можна проста параўнаць частачку гелію з куляю, але можна сабе ўявіць, якое аграмаднае ўзьдзеяньне зробіць такі атамовы снарад на акружэньне да свайго канчатковага затармаженьня. Сотні тысячаў малекул паветра разьбівае ён на іёны ды праз працес іёнізацыі ўдаецца выкрыць паасобныя часьцінкі $\alpha$.

Да працесаў перамены праходзячых у прыродзе, прыбылі ад 1919 году штучныя атамовыя перамены праведзеныя Рутефордам. Клясычным прыкладам гетага зьяўляецца перамена азоту /N/, пры ўзьдзеяньні часьцінак $\alpha$ у ізатоп кіслароду, прычым адзін протон выкідаецца.

( $[7_n + 7^+] + [2_n + 2^+] - 1^+ \longrightarrow 9_n + 8^+$ . Ладунак "8" і маса "17" паказваюць нам, што атрыманы елемент ёсьць ізатопам кіслароду.)
Нарешце ў 1934 годзе наступіла ўтвареньне першых штучных радыёактыўных елементаў праз Кюры-Жолые, коратка пасьля шаго, як Чедвік адкрыў вышейуспомненую важную складовую частку ядра – неўтрон. Ад гетае пары пачалося бурлівае разьвіцьцё ў галіне штучных радыёактыўных пераменаў і штучных радыёактыўных субстанцыяў. Вынікаў гетага разьвіцьця нельга яшче прадбачыць.

/даканчеьне ў наступным нумары/.

-о-О-о-

бьіццам на нешта вельмі страшнае, толькі з вачей яе сыпаліся адна за адной сьлязінкі, як сыпаліся пажоўклыя лісточкі са здрагануўшайся : з пад абухам бярэзіны... Лявон нагнуўся, абчасаў каля пня кару і, адагнуўшыся, са ўсяго маху запусьціў сякеру ў бярозу і, павярнуўшы тапарышча на бок, адшчапіў вялікую трэску. Дрэва заскрыпела, запішчала, быццам свала жаліцца, як тое дзіця... А з-пад Лявонавай сякеры шчэпкі ляцелі і ляцелі...

Але нядоўга яму прыйшлося працаваць: нагнуўся Лявон, глянуў на падсечанае месца, ткнуў туды тапарышчам, і, адагнуўшыся, глыбока, глыбока ўздыхнуў...

— Марыська, дзіцятка мае, — дрыжачым голасам пачаў Лявон, — бачыш? Гэта-ж тут усяго на палец абалоні! А там — там парахня, адна парахня!.. А ведаеш, чаму, гаротніца ты мая? Ведаеш? Гэта-ж твой боль, гэта-ж твой жаль спарахнілі гэтую бярозку, — бы ты доляй сваей жалілася ёй. Дрэва і то спужалася такой долі... уміраее гэта бярозка, уміраае без пары, бо кажны раз, як ты прыходзіла жаліцца, ёй было штораз цяжей, а ты, мае гаротнае дзіцятка, успомні, ты тады мела хвіліны, падобныя да шчасьця...

І Лявон, узяўшы рукамі галоўку сваей пацехі, моцна прыціснуў да сябе, а Марыська, тулячыся да бацькавых грудзей, прашаптала:

— Татачка, а чаму паміж людзей я не знайшла каму пажаліцца?

Лявон маўчаў.—

Ядвігін Ш.

## Х Т О   С К А З А Ў . . .

Хто сказаў: "і я з народам",
Хто з ім поплеч стаў, як з братам,
Хто пайшоў з ім роўным ходам
К роўным зыскам, роўным стратам, —
З тым і я. Няхай-жа ліча,
Будзе трэба — хай пакліча.

Хто сказаў, а потым здрадзіў,
Хто пайшоў, а потым кінуў,
Хто ў душы сумленьне згладзіў,
У кім апошні розум згінуў, —
Хай дрыжыць. У дзень прысуду,
У страшны дзень я сьведчыць буду!—

Алесь Гарун.

-о-0-о-

## СТУДЭНЦКАЯ ХРОНІКА.

Паседжаньне ўраду Міжнароднага Студэнцкага Аб'еднаньня.

У пятніцу 21.I.46 г. у 17 гадз. распачалося чарговае паседжаньне ўраду М.С.А., на якім разглядаліся наступныя справы:

1/ Праўнае прызнаньне амэрыканскімі ўладамі арганізацыі Міжнароднага Студэнцтва.
2/ Камісія Д.П.
3/ Арганізацыя курсаў ангельскай мовы для студэнтаў.
4/ Пачатак выкладаў.
5/ Апека над студэнтамі і інш. бягучыя справы.

# Б Я Р О З К А.

– Даждаўся Лявон, што пацеха ягоная Марыська – выцягнулася ўгару, як тая маладая, гладкая бярозка. Ад хлапцоў адбою ня было і, хоць сэрца крывёю абліваласся, а пара падыйшла замуж аддаваць.

Справіў Лявон вясельле як мае быць: каб у сэрцы дзіцячым на доўгія гады добрая памятка асталася і каб перад людзьмі сораму ня было; але як прыйшлося раставацца з дачушкай, – сплакаўся бедны, як бобр: быццам чула сэрца нешта нядобрае. Ён і кажа ёй на апошнім адвітаньні:

– Слухай, пацеха мая, адну цябе толькі я маю і адну табе толькі даю раду: калі цябе прыцісьне горкая доля, калі табе будзе вельмі цяжка жыць, што і змогі ня будзе вытрымаць, – ня жалься нікому, нікому, хіба знойдзеш такую спрыяючую, верную душу, як спрыяла і верная была для цябе душа твайго бацькі; ня знойдзеш, – ідзі лепш у лес, выбяры каторае табе спадабаецца дрэва, і яму, толькі яму аднаму, маё ты дзіцятка, душу сваю адкрывай, жаль свой вылівай...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Прайшло ня мала часу. Паехаў Лявон дачкі даведацца. Вылецела Марыська з хаты, кінулася бацьку да каленаў; прыпала пасьля галоўкай да грудзей бацькавых, але ў скорасьці, як-бы засароміўшыся, адскочыла, спусьціла вочкі і стаіць, уся зьбялеўшая, толькі губкі дрыжаць...

Доўга Лявон моўчкі ўглядаўся на сваю пацеху, а пасьля памалу падыйшоў да яе і глухім, быццам не сваім голасам, стаў дапытвацца:

– Цяжка?

– Ой, цяжка, татачка! – уздыхнуўшы, адказала дачка.

– Жалілася?

– Жалілася, – вышаптала Марыська.

– Каму?

– Бярозцы.

– А больш?

– Не знайшла каму.

– Нясі сякеру, пакажы мне гэтае дрэва, – сказаў Лявон.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Хістаючыся, як маладая ад буры бярозка, ішла наперадзе Марыся, а за ёй, як хмара сумны, ішоў з сякерай Лявон...

– Вось тая, на ўзгорку, – здалёк паказвала рукой Марыся. – Ой, татачка, – жалілася яна, – якая гэта была пекная бярозка, якая гладкая! Якія пекныя былі на ёй галінкі, а на галінках паўнюсенька зялёненькіх бліскучых лісточкаў!..

Лявон маўчаў.

... – Татачка! Што ёй зрабілася? Гэта-ж цяпер лета... Чаму яна ўчарнела? Чаму здрабнелі, пакурчыліся яе лісточкі? Татка?

Лявон маўчаў.

... – Чаму жаўцеюць гэтыя лісточкі? Бачыш, татка, лісточкі з яе ападаюць... Чаму галінкі свае яна ўніз апусьціла, быццам яны плачуць?.. Я так любіла, я так кахала гэтую бярозку, а яна ўмір...

Не пасьпела слова скончыць Марыся, як цяжка грукнуў па дрэве абух... Як падстрэленая птушка, скокнула яна і схапіла за руку старога:

– Татачка, не чапай!! Не чапай, родненькі мой! – прасіла Марыся. – Баліць... баліць...

Але Лявон, нічога ня кажучы, ізноў стукнуў абухам па дрэве; рэха не адазвалася – стук быў глухі, як-бы гэта не па дрэве, а па зямлі стукаў... Марыська стаяла воддаль, заламаўшы рукі, і глядзела,